ПРЕЗЕНТАЦИЯ

# Портрет жены художника Андрея Смоляка не продается даже за сто тысяч долларов

*В Минске открылась первая частная галерея "Эрмітаж". Ее владельцы — один из самых дорогих художников Беларуси Андрей Смоляк и его супруга и продюсер Ольга Сычик.*

*"Я всю жизнь мечтала о собственной галерее. Сегодня моя мечта исполнилась"*, — сказала на презентации Ольга Сычик.

"Эрмітаж" Смоляка находится как раз напротив Национального художественного музея Беларуси. Сколько усилий было приложено для того, чтобы выкупить помещение в самом центре Минска, ни Ольга, ни Андрей рассказывать не стали.

*"Наша мастерская находится напротив Дворца искусств. Галерея — напротив Национального художественного музея. А живем мы рядом с Союзом художников. Это судьба...* — философски заметила супруга Смоляка. — *У нас не было цели купить здание именно напротив Художественного музея. Но соседство с ним обязывает нас расти, быть выше, талантливее, благороднее".*

К сведению: работ Андрея Смоляка в Национальном художественном музее пока нет.

*"Но, надеюсь, обязательно будут"*, — заметила Ольга.

Сейчас в "Эрмітажы" представлены только творения самого Смоляка. 33 женских образа. Но в будущем здесь будут проходить выставки других белорусских и зарубежных художников. Экспозиция будет меняться каждые двадцать дней. Правда, героем ближайших трех выставок будет только Смоляк.

*"После женских образов мы представим работы, посвященные Пасхе,* — говорит Ольга. — *Накануне 11 апреля галерею освятит священник. Затем планируем организовать выставку работ фотохудожника Алены Адамчик* ***(супруги скандально известного писателя Адама Глобуса. — М.В.)".***

По словам Смоляка, не все выставленные в "Эрмітажы" картины можно будет купить.

*"У меня есть работы, которые вообще не продаются. Ни за какие деньги. Например, портрет моей жены. Он не продается даже за сто тысяч долларов"*, — говорит он.

*"На международных выставках художник просто обязан указывать цену своих работ. На те картины, которые мы не хотим продавать, выставляем просто запредельную цену. Однако, как правило, всегда находится желающий их купить..."* — уточняет Ольга.

В честь открытия первой частной галереи в Минске в "Эрмітажы" гостям подавали ***водку "Смоляк"*** и ***шампанское "Эрмітаж".***

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

**На фото:** *Андрей Смоляк с женой; одна из работ Смоляка "Голубые глаза".*

# Оксана Ковалевская признала себя продуктом попсы

*17 марта в концертном зале «Минск» выступит группа «Краски»*

Последний концерт "Краски" дали в Минске год назад.

*"Помимо новых песен мы постараемся показать все лучшее, чему мы научились за это время в поездках по Америке, Европе и России. Все-таки в Минске живут наши самые первые, а потому самые дорогие нашему сердцу поклонники"*, — сказала вокалистка группы **Оксана Ковалевская.**



Кстати, Оксана уверяет, что просто ненавидит те песни, которые сделали ее знаменитой, и утверждает, что музыка нынешнего альбома будет более серьезная. Новые песни, по словам Ковалевской, показывают ее такой, какая она есть.

*"Да, я, к сожалению, происхожу из того несчастного тинейджерского поп-феномена, который в то время был беден на какие-то интересные идеи,* — говорит Оксана. — *Тогда никто не задумывался о том, чтобы лирика была вдохновлена реальными событиями, гораздо проще было исполнить какую-нибудь "качающую" поп-песенку с незамысловатыми текстами. Теперь я об этом жалею, так как многие, увидев меня в том образе, решили, что я действительно такая пустышка. И теперь мне только остается кричать: "Я не такая! Я выросла, я изменилась, я прогрессирую!"*

А "Краски" действительно прогрессируют. Так, 27 апреля они будут представлять Беларусь в Роттердаме (Голландия) на ежегодном шоу *"Fox Kids Planet Live"*, организатором которого является всемирно известный детский телеканал *"Fox Kids"*.

"Краски" станут первым белорусским участником шоу за все время его существования. Не последнюю роль в приглашении "Красок" сыграло успешное осеннее европейское турне, во время которого они дали ряд концертов в Германии и Голландии.

Условия *"Fox Kids Planet Live"* строгие — каждый участник должен исполнить две песни на английском языке. Ответственность более чем серьезная, особенно, если учесть, что "Краски" окажутся на одной сцене с мировыми поп-звездами — *Atomic Kitten, Liberty X, Blue, The Cheeky Girls, Billy Crawford, Gareth Gates* и многие другие.

*www.westrecords.by*

АМБИЦИИ

# Проберется ли Егоров сквозь тернии к звездам?

*В конце прошлого года в одной из минских типографий вышла книга* ***"Звезды и тернии генерала Егорова".*** *В ней экс-министр внутренних дел Беларуси, экс-председатель КГБ Беларуси, а ныне — депутат Палаты представителей генерал-полковник* **Владимир Егоров** *пытается проанализировать прожитое.*



*Министр обороны Л.Мальцев, председатель КГБ В.Егоров и министр внутренних дел Ю.Захаренко на заседании совместной коллегии. Июль, 1995 год. Фото из книги.*

В обращении к читателям Егоров пишет: ***"У меня не было возможности самому написать это повествование. Я благодарен своему бывшему помощнику, полковнику милиции Михаилу Харитонову, который был рядом со мной в течение всего периода моей службы министром внутренних дел Беларуси, взявшему на себя труд записать и подготовить к печати то, о чем мы говорили во время не таких уж и частых встреч. Этим и объясняется выбор не совсем обычной формы подачи материала...".***

В "Звездах и терниях" много критики звучит в адрес бывшего госсекретаря Совета безопасности **Геннадия Данилова**. Мол, кадры на ключевые государственные должности Геннадий Ильич подбирал по принципу личной преданности. На профессионализм не смотрел. Кстати, о сегодняшних нередких кадровых перестановках в книге нет ни слова.

Как известно, на первых президентских выборах Егоров был доверенным лицом **Станислава Шушкевича**. Станислав Станиславович говорит, что Егоров всегда казался ему достойным генералом, но он изменил к нему отношение после того, как Владимир Демьянович накануне минувших парламентских выборов якобы заявил о том, что некоторые депутаты не так преданны А.Лукашенко, как хотелось бы... Егоров утверждает, что подобных заявлений никогда не делал. И в книге пишет, что ***"не избегал ответственности, не искал лазеек, теплых и спокойных должностей".***

С журналистской точки зрения в "Звездах и терниях" нет ни сенсационных откровений, ни скандальных фактов. Даже о своей отставке с поста министра внутренних дел Егоров пишет крайне дипломатично. Хотя в одном из своих недавних интервью честно признался: ***"Моя ошибка в том, что не проявил должного мужества или бдительности и не взял письменного указания у генпрокурора на арест литовских коммунистов. За что и был освобожден от должности министра внутренних дел Беларуси. Обиднее всего, что освободили от должности в результате интриг, а не за упущения в работе...".***

***"Просто еще время не пришло обо всем рассказывать",*** — говорит Владимир Демьянович. И в предисловии к книге обещает, что ***"в дальнейшем намерен обратиться к жанру мемуарной литературы и на основе данной публикации написать книгу воспоминаний. Честное слово, мне есть о чем поведать".***

**Марина КОКТЫШ.**

ПЕРСОНА

*Вальжына ЦЯРЭШЧАНКА:*

# «Не люблю, калі мяне выхоўваюць...»

*Мне давялося слухаць песні* ***Вальжыны Цярэшчанка*** *не толькі на прэстыжных фестывалях і ў шыкоўных канцэртных залах, але і на вяселлі майго сябра, беларускага крытыка і паэта Вітаўта Мартыненкі. Вальжына была сяброўкай нявесты і згадзілася праспяваць некалькі песень для маладых. Не яе віна, што шлюб гэты аказаўся нетрывалым. Затое трывалымі засталіся ўражанні ад голасу і выканаўчай манеры Вальжыны Цярэшчанка: назаўсёды ў памяць урэзалася гранічная шчырасць і пранікнёнасць, меладычнасць яе песень. А яшчэ — магічнае ўменне наладзіць кантакт са слухачамі: яе песні п'янілі больш, чым віно.*

*За тыя гады, што мы не бачыліся, Вальжына стала больш прагматычнай. Так яна сама гаворыць.*

— У працы і ў штодзённым жыцці я стала больш рэалістычнай і прагматычнай, хаця лічу, што прагматызм — рыса моладзі, — гаворыць Вальжына. — Але я ўжо даўно лічу сябе не такой маладой, і таму мяне заўсёды цікавяць канкрэтныя рэчы: заробак, умовы працы...

**— Дарэчы, аб працы. У продажы нядаўна з'явіўся Ваш сольны альбом *"Хтось крануўся крылаў..."*. Якія думкі Вы хацелі б данесці да слухачоў гэтай кружэлкай, і што для Вас асабіста значыць гэтае выданне?**

— Акрамя звычайных прыхільнікаў бардаўскай песні гэты дыск можа быць карысны для настаўнікаў-філолагаў пачатковых класаў. Гэты альбом, на мой погляд, нясе адбітак асветніцтва. Безумоўна, некаторыя песні былі запісаны і на ранейшых касетах, але на дыску яны выразна лепшай якасці. Увогуле, у плане якасці гэты дыск — новы прафесійны ўзровень. Думаю, гэты альбом будзе карысны для тых, хто хоча данесці беларушчыну да дзяцей. Не дзеля нейкага абстрактнага патрыятызму, а проста дзеля нармалёвага жыццеасэнсавання.

У нас вельмі багатая музычная спадчына. У кожным рэгіёне нашай краіны маецца багаты культурны пласт. Беларусь павінна мець свой музычны твар. Часам бывае вельмі крыўдна за нас, калі бываеш, напрыклад, у Латвіі. Латышы самадастатковыя. У іх гучаць усе стылі, і ўсё — сваё. Адсюль у іх няма патрэбы слухаць штосьці чужое. У нас гэтага бракуе. Маёй дачцэ 18 гадоў, і я бачу, што слухаюць вакол яе... У мяне ёсць мара. Я б хацела паспяваць з кім-небудзь у самых розных стылях. Я лірык, але часам хочацца мажору...

**— Частка песень з Вашага сольніка запісвалася ў Швецыі. Як Вы туды трапілі?**

— Я была педагогам групы хворых на астму дзяцей, якіх запрасіла арганізацыя "Зорка надзеі". Усё падарожжа я не развітвалася з гітарай. Разам з дзецьмі мы спявалі розныя песні. І, пачуўшы мае спевы, мне прапанавалі запісаць дыск на прыватнай студыі. Далі ўсяго дзве гадзіны. Запісваліся мы ў горадзе Арнкольдсвік на прыватнай студыі Дэвіда Персона. На жаль, шведы не адрозніваюць, дзе беларуская, дзе руская, дзе ўкраінская музыка. Мы запісвалі ў першую чаргу тое, што ім падабалася, у тым ліку расійскія рамансы. На развітанне гукарэжысёр пашкадаваў, што я не спяваю па-ангельску і так хутка з'язджаю. Пра выданне кампакт-дыска ў Швецыі я нічога не ведаю, хаця ёсць людзі, якія яго бачылі. Дый шведы пыталіся наконт правоў на выданне, але ў нас былі іншыя праблемы: у нашай групе знікла дзіця. Тата, які жыве ў Швецыі, скраў свайго дзіцёнка, таму шведы перарвалі ўсе далейшыя стасункі. З гэтай прычыны я ўжо не маю кантакту з імі. Не мая віна, што так адбылося...

**— Перад якой аўдыторыяй Вам прыходзіцца выступаць апошнім часам і як рэагуюць слухачы на Вашыя песні?**

— Я цяпер выступаю перад самай рознай аўдыторыяй. Часам нават супярэчлівай. Публіка наколькі прыязная, настолькі і насцярожаная. Бываюць выпадкі, калі можна пачуць: "Говорите по-русски!" Мяне гэта не палохае. Я не займаюся выхаваннем аўдыторыі, бо не люблю таксама, калі мяне выхоўваюць.

**Анатоль МЯЛЬГУЙ.**

КУЛУАРЫ

## Вокалиста «Ляписов» чуть не обокрали

Недавно второй вокалист и первый сердцеед "Ляписа Трубецкого" **Павел Булатников** вместе с женой и друзьями побывал в столичном ресторане "Караван-сараи". Результатом вечера чуть не стал серьезный минус в семейном бюджете.



В ресторане выступал цыганский ансамбль. Как известно, "Ляписы" неравнодушны к темпераментной музыке этого народа, а сам коллектив **Сергея Михалка** из-за многочисленности и шумности даже сторонние люди часто называют "табором". Но когда компания уже собралась домой, жену Булатникова окружили три цыганки и одна из них стала вытаскивать у нее из сумочки кошелек.

К счастью, артист был начеку и стал предъявлять претензии охране, которая стояла рядом. Однако та, что весьма странно, лишь равнодушно взирала на происходящее.

*"Мы с другом устроили им самый настоящий скандал, и если бы не вмешательство жен, то, кто знает, могло дойти и до драки"*, — считает Булатников.

Как известно, "Ляписы" за себя постоять могут. Несколько лет назад к ним в поезде прицепился какой-то бандит, который, выпив в компании с музыкантами, начал их оскорблять. Когда он полез драться, лидер группы Сергей Михалок просто дал ему "быка", и пьяный "крутой" с разбитым носом был вынужден убраться восвояси.

## ...А Хлестова обокрали

Пару недель назад поп-певец **Алексей Хлестов** решил сделать подарок любимой девушке, купив ей котенка. Отправившись по объявлению на квартиру хозяйки животного, Алексей даже не подозревал, что его ждет...

Котенок оказался замечательный. Алексей твердо решил его купить, но, пока суть да дело, присутствовавшие в квартире племянники хозяйки успели вытащить из кармана певца кошелек со 150 долларами, предназначенными для покупки.

Музыкант не стушевался и сразу потребовал вызвать милицию, чему несчастная женщина не препятствовала — она знала, что мальчики уже стояли на учете в милиции. Для того чтобы вернуть украденное, сотрудникам Первомайского РОВД с учетом обыска, составления протоколов и т.д. понадобилось несколько часов...

## «Крамбамбуля» идет на экспорт

*Известная белорусская группа "Крамбамбуля" в ближайшем времени выпустит свой альбом "Каралі раёна" в Украине. Договоренность об этом была достигнута с ведущей украинской рекорд-компанией Lavina Music.*

Специально для украинского релиза будет записано несколько новых песен, одна из которых прозвучит в дуэте с легендарным **Олегом Скрипкой,** лидером группы ***"Вопли Видоплясова".***

## Кирилл Слука рассуждает об армии

На днях певец **Кирилл Слука** вместе с **Иваном Луценко** *(сын художественного руководителя Национального академического драматического театра имени М.Горького* **Бориса Луценко)** записали новую песню ***"Армия нужна".***

Как сообщает *"PR-агентство ActiveMedia"*, данная композиция написана по заказу.

"Но мне не стыдно говорить об этом, — признается Кирилл Слука. — Потому что в данном случае заказчиком выступало само государство. Для меня это действительно большая честь. Я рад, что *Sinagoga records production (так называется мой продюсерский центр)* с достоинством выдержал этот экзамен.

Я просто написал песню об армии. На сто процентов могу сказать, что ни в чем не слукавил и сделал свою работу профессионально и качественно. Получилась, на мой взгляд, песня-рассуждение. Потому что фразу *"Армия нужна"* можно воспринимать и как вопрос, и как утверждение. И все же *"в этом мире добра и зла нужно, чтобы армия была"*. Теперь дело за малым — выразить песню сценически. Я уверен, что она займет достойное место на музыкальном рынке".

**Анна ПАВЛОВА.**

# Дзеля музыкі спявачка Влада ахвяруе асабістым жыццём...

*Па кантракце маладая беларуская спявачка Влада ў бліжэйшыя пяць год не мае права выходзіць замуж. «Мяне гэта не засмучае, бо я па-сапраўднаму яшчэ і не кахала», — прызнаецца артыстка.*



**— Влада, скажыце, чаму Вы пакінулі ансамбль "Верасяты"?**

— Мне хацелася пачаць сольную кар'еру. А ў Васіля Пятровіча Раінчыка ёсць іншы праект — Вікторыя Алешка. Я зразумела, што маёй сольнай творчасцю ён займацца не будзе, а мне хацелася спяваць. Таму і сышла.

**— На апошняй прэс-канферэнцыі прадзюсер Сяргей Ждановіч даволі рэзка абарваў Ваш адказ на адно з пытанняў. Ён заўсёды такі дэспатычны?**

— Сяргей не дэспатычны, а патрабавальны. На мой погляд, такім і павінен быць сапраўдны прадзюсер. Хваляць няхай мяне іншыя, а ён павінен гаварыць пра мае недахопы, каб я магла іх выправіць. Сяргей не дыктуе сваю волю, як можа падацца на першы погляд. Мы ўсе пытанні абмяркоўваем разам. Напрыклад, для першага альбома ён прывёз мне дзесяць песень, з якіх я выбрала толькі дзве. Так што я зусім не падобна на няшчасную спявачку, якую тэрарызуе яе прадзюсер.

**— У Вашым кантракце з прадзюсерам існуе пункт, згодна з якім Вы не маеце права выйсці замуж на працягу пяці гадоў...**

— Мне нядаўна споўнілася 18 год, і ў бліжэйшы час я замуж не збіраюся. А калі гаварыць шчыра, то я яшчэ і не кахала па-сапраўднаму... Я ўся ў сваёй працы.

**— Што, і хлопцаў не было?**

— Былі, канешне. Я не манашка, якая сядзіць увесь час дома. Хадзіла на дыскатэкі, знаёмілася. Але ў асноўным гэта былі сяброўскія адносіны.

**— Паклоннікі не назаляюць?**

— Я трымаю свой тэлефон у сакрэце. І рэагую вельмі насцярожана, калі мне нехта звоніць. А калі яшчэ і на хатні нумар, дык наогул "дазнанне" стану праводзіць, дзе яны яго ўзялі.

**— Ходзіць шмат чутак пра Вашы пяшчотныя адносіны да Кірыла Слукі...**

— У нас з Кірылам сяброўскія адносіны. Мы знаёмы вельмі даўно і з'ўляемся толькі сябрамі. Паміж намі няма нічога асабістага. Кірыл заўсёды мяне падтрымліваў: і пасля выхаду з "Верасят", і падчас працы над першым альбомам.

**— Влада, а як выкладчыкі ставяцца да Вашай папулярнасці?**

— Вопыт мінулых гадоў вучобы ў школе і ліцэі паказаў, што выкладчыкам ніколі не трэба казаць, што ты спявачка. Існуе, на мой погляд, памылковае меркаванне, што па гэтай прычыне ў цябе проста няма здольнасцяў да вывучэння фізікі альбо біялогіі. Таму я і не афішую сваіх дасягненняў, хаця, напэўна, некаторыя мяне і пазнаюць.

**— Не думаеце, што песні, якія Вы выконваеце, не прынясуць Вам вялікай папулярнасці?**

— Вопыт маіх выступленняў у клубах паказвае, што папулярная музыка зараз запатрабаваная слухачамі.

**— Вашым генеральным партнёрам з'ўляецца фірма, якая выпускае вокны. Здаецца, музыка і вокны — рэчы несумяшчальныя...**

— У мяне заўсёды пытаюць: *"Якія адносіны ў Вас з дырэктарам гэтай фірмы?"*. Яшчэ раз адказваю: ніякіх асабістых адносін у мяне з ім няма, толькі дзелавыя. Мой прадзюсер проста прыйшоў у гэтую фірму, паставіў маю песню, і яны зацікавіліся...

**— Скажыце: дзеля паспяховай кар'еры Вы гатовы ахвяраваць чым заўгодна?**

— Самае галоўнае — не ісці па чыіхсьці галовах і не спыняцца на дасягнутым. Зараз я ўжо ахвярую сваім асабістым жыццём. Я не хаджу ў клубы, прапускаю дні нараджэння сяброўак з-за канцэртаў, не сустракаюся з хлопцамі. А што будзе далей, чым яшчэ прыйдзецца ахвяраваць, паглядзім...

**Марыя РУСАКОВІЧ.**

### Дасье

*Упершыню на сцэне Влада з'явілася ў 6 год, адразу стаўшы "Надзеяй" конкурсе "Тэлебом". Потым быў чатырохгадовы вопыт работы ў ансамблі "Верасяты" пад кіраўніцтвам Васіля Раінчыка.*

*З 2001 года Влада займаецца сольнай кар'ерай, яна лаўрэат Міжнароднага фестывалю краін СНД і Балтыі ў Маскве.*

*Па выніках 2002 года беларуская спавачка атрымала "Прыз глядацкіх сімпатый" на тэлефестывалі "Хіт-момант".*

*Напрыканцы мінулага года выйшаў у свет яе першы альбом пад назвай "Новая гісторыя".*

*Зараз рыхтуецца да выхаду яе першы кліп на песню "Не торопись".*

## «Монтевидео» от «J МОРС»



Пару дней назад белорусская группа *"JМОРС"* презентовала свой новый альбом "Монтевидео". Выпустила его компания *West Records.* В поддержку альбома на одноименную песню снят клип.

*"Белгостелерадиокомпания еще в прошлом году хотела начать производить собственные клипы,* — говорит режиссер "Монтевидео" **Анатолий Вечер.** — *Когда появилась радиостанция "Радиус FM", мы договорились, что будем снимать клип на ту композицию, которая, по итогам их исследований, станет лучшей. Всю эту акцию мы назвали "Лучшему аудио — лучшее видео". Я рад, что первая композиция — это действительно композиция, на которую можно и нужно снимать клип. Кстати, была потрясающая штука! Когда на "Радиусе" играла "Монтевидео", я подумал: "Было бы классно, если бы именно эта песня победила!" Прошло буквально полчаса, мне позвонил продюсер "Радиус FM" и сказал, что победила песня "Монтевидео". Я вообще человек не суеверный, но это совпадение на меня давит — я понимаю весь груз ответственности! Тем более, я большой поклонник "JМОРС", обожаю эту команду!"*

Как выяснилось, Первый Национальный канал намеревается каждый месяц снимать по клипу.

*"Не факт, что каждый раз режиссером буду я,* — продолжает Анатолий. — *Возможно, режиссеры будут меняться. Как сказал наш генеральный продюсер Владимир Максимков, он не хочет, чтобы все клипы были близнецами. Руку надо менять. Дай Бог, чтобы за год у нас получилось 12 клипов. Возможно, потом мы устроим какую-то презентацию.*

*Обычно под каждый свой клип я имею четкую раскадровку. Но "Монтевидео" — песня, которая не требует завернутого сюжета. Я считаю, что в ней главное — аудиотрек, и наша задача — его не испортить. Мы просто снимали разные планы актрисы, музыкантов. Сюжет как бы есть, но каждый должен понять его по-своему..."*

Роль главной героини клипа исполнила **Галина Якубовская,** студентка 2-го курса Белорусской государственной академии искусств.

**Евелина КРУПЕНЬКИНА.**

**На фото:** *режиссер клипа Анатолий Вечер, актриса Галина Якубовская и лидер группы "JМОРС" Владимир Пугач.*

